*Людзьмі звацца!*
*Янка Купала.*

# СПРАВА

№ 17
Кастрычнік
2012 г.

http://vk.com/id168308417

*Выдаецца з лютага 2012 г.*

ІНФАРМАЦЫЙНА - ГРАМАДСКІ БЮЛЕТЭНЬ МАГІЛЁЎСКАГА РАЁНА

## ХТО ВІНАВАТЫ?



***Чаму ў Беларусі адразу пасля выбараў так хутка пачалі расці кошты – на бензін, праезд, мяса, камунальныя паслугі? Хто павінен несці за гэта адказнасць?***

З такімі пытаннямі карэспандэнт звярнуўся да жыхароў Магілёва. Большасць з іх вінаваціць ва ўсім кіраўніцтва краіны і смуткуе, маўляў, а што мы можам – просты народ. Аднак ёсць і тыя, хто, паддаўшыся дзяржпрапаганда, паўтараюць адвечнае – маўляў, вакол ворагі, вінаваты Еўрасаюз і апазіцыя.

Цікавы і яшчэ адзін факт – абсалютная большасць апытаных не хадзілі на выбары: "Не за каго было галасаваць".

► – Гэтага і трэба было чакаць. Урад штучна стрымлівае цэны. Не падвышае даляр. А выбары прайшлі – і ўсё.

► – Я нічога не думаю, але я незадаволены гэтым. Я незадаволены гэтым з мінулага года. З вясны, калі кошты падняліі ў чатыры разы. Хто вінаваты? Ад кіраўніцтва дзяржавы ўсё залежыць.

► – А хто яго ведае. Не ведаю. Наш прэзідэнт. І яго чыноўнікі. Вось у чыноўнікаў і трэба спытаць, чаму так дорага ўсё стала. Жах. Жыць немагчыма.

► – Напэўна, ім грошай больш трэба. Вядома, цяжка. Так не павінна быць. Мы ж дэпутатаў абіралі, і павінны яны нам дапамагаць.

► – Мы ўсё ж такі дзяржава, вакол якога варожае ўсё. Калі б Еўрасаюз быў разумны і не шкодзіў нам, то ў нас было б усё выдатна. А так нам нехаця даводзіцца боўтацца ў гэтай гразі, у якую нас загнала наша "хворая" апазіцыя.

► – Я ў выбарах не ўдзельнічала. Не за каго было галасаваць. А кошты растуць кожны дзень, як у казцы. Прыходзіш у краму - і адразу табе, калі ласка, сюрпрыз.

► – Я нічога не ведаю. Я сядзела ў вёсцы ўвесь час. Толькі прыехала. Я і не галасавала. І ведаць не ведаю нічога. Я цёмны чалавек.

► – Усё будзе даражэць. Такая сістэма ў нас, напэўна. Ніхто адказнасць не панясе. Яны ж усё па законе робяць. Вайны ў нас няма, і ўсё нармальна.

► – Гэта не да мяне. Там вышэй людзі сядзяць. Я адкуль ведаю, чаго яны пачалі расці. З гэтай палітыкай не разбярэшся. Ёсць начальства на гэтую справу. І яны павінны несці адказнасць.

► – Я нават не магу адказаць. Я і на выбары не хадзіла. Не знайшла такога кандыдата, за якога можна было прагаласаваць. Ну, хто павінен несці адказнасць? Кіраўнікі. Яны ж вырашаюць усе пытанні.

***Антон ДУБАЛОМАЎ.***
*Паводле БелаПАН.*

## Эканаміст Леанід ЗЛОТНІКАЎ:
## *“Магчымы крах пенсійнай сістэмы”*



У сувязі з гэтым улады павялічаць ўзрост выхаду на пенсію, лічыць эканаміст. *«Пенсійны ўзрост сапраўды трэба павышаць, у Беларусі ён адзін з самых нізкіх у свеце. Праўда, беларусы і жывуць менш за іншых. Але павышаць узрост выхаду на пенсію трэба не з прычыны павышэння якасці жыцця, як заявіў намеснік міністра працы Валерый Кавалькоў, а ў сувязі з тым, што можа наступіць крах пенсійнай сістэмы»*, - адзначыў вядомы беларускі эканаміст Леанід Злотнікаў.

Па словах эксперта, хутка пенсійных адлічэнняў працоўных не будзе хапаць на выплату пенсій. *«У нас адбываецца працэс, калі колькасць работнікаў зніжаецца, а колькасць пенсіянераў расце. Так будзе працягвацца 20-30 гадоў. І пенсійных адлічэнняў працоўных не будзе хапаць на выплату пенсій».*

Ёсць тры спосабу не дапусціць краху пенсійнай сістэмы, адзначыў эканаміст. *«Нешта трэба рабіць. Павялічваць працаздольны ўзрост. Альбо зніжаць пенсіі – а яны ў нас і так маленькія. Трэці варыянт – павялічваць адлічэнні ў пенсійны фонд. А гэтага рабіць таксама нельга, у нас адлічэнні ў яго вышэй, чым у Казахстане і Расіі. Гэтыя адлічэнні ўваходзяць у сабекошт прадукцыі. У тым ліку і дзякуючы гэтаму нашы тавары неканкурэнтназдольныя на рынку Адзінай эканамічнай прасторы. Так што правільным рашэннем будзе павышэнне ўзросту выхаду на пенсію»*,– лічыць Леанід Злотнікаў.

Нагадаем, нядаўна ў інтэрв'ю дзяржаўным СМІ намеснік міністра працы Валерый Кавалькоў заявіў, што ў Беларусі трэба павышаць узрост выхаду на пенсію. Ён абгрунтаваў гэта тым, што ў нашай краіне вырасла якасць жыцця і яе працягласць.

*Паводле charter97.org*

## Сацыёлагі абвяргаюць...

Наглядзячы на шматлікія заявы прадстаўнікоў апазіцыі аб тым, што парламенцкія выбары не адбыліся, яўка выбаршчыкаў на іх перавысіла 50%. Байкатавалі выбары 9,6% выбаршчыкаў. Такія дадзеныя апытання грамадскай думкі, праведзеныя ў верасні-кастрычніку Незалежным інстытутам сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (Вільнюс, Літва).

17,4% апытаных прагаласавалі датэрмінова (18-22 верасня), 49% - 23 верасня, 9,6% - байкатавалі выбары, яшчэ 24% - не ўдзельнічалі па іншых прычынах, гаворыцца ў каментарах да вынікаў апытання, размешчаных на сайце НІСЭПД.

Як адзначаюць сацыёлагі, яўка перавысіла 50-працэнтны парог за кошт выбаршчыкаў з абласных цэнтраў (не лічачы Мінска) і рэгіёнаў, дзе пражывае 80% беларускага электарату.

На думку НІСЭПД, не адпавядаюць рэчаіснасці і заявы аб тым, што "калі выбары і адбыліся", то, перш за ўсё, дзякуючы датэрміноваму галасаванню, на якім "было здзейснена большасць фальсіфікацый". "На самой справе датэрмінова прагаласавала крыху больш за чвэрць усіх удзельнікаў галасавання – нават менш, чым на папярэдніх парламенцкіх выбарах (тады датэрмінова прагаласавала 24%, а ў дзень выбараў - 41,1%). Прычым, толькі 2,2% сказалі, што іх "да гэтага прымусілі", а 15,2% зрабілі гэта "па ўласнай ініцыятыве", – адзначае НІСЭПД.

Больш за тое, па дадзеных апытання, 47,5% рэспандэнтаў назвалі выбары, якія прайшлі "свабоднымі і справядлівымі", 27% з гэтым не пагадзіліся. Практычна такім жа было аналагічнае суадносіны і ў верасні 2008 года (48,7% супраць 27,1%), паведамляе НІСЭПД.

***Падрыхтаваў Антон ДУБАЛОМАЎ.***

## ПАМІРАЦЬ - У СМАЛЕНСК

Навіна, годная першых палос, абляцела ўсе газеты і навінавыя сайты краіны, якія пішуць пра тое, што адбываецца ў Магілёўскай вобласці. Мы таксама не можам абыйсці ўвагай гэты абуральны факт: з ахоўнага хлява эксперыментальнай базы «Дашкаўка» ў вёсцы Навасёлкі Магілёўскага раёна ў ноч на 27 верасня былі выкрадзеныя 22 цёлкі агульным коштам 92,3 мільёна беларускіх рублёў.

Іх прапажу знайшлі толькі раніцай. Усяго ў статку больш за 200 галоў жывёлы, і, як падаецца



людзям далёкім ад сельскай гаспадаркі, прапажу нейкіх 22 цёлак маглі і зусім не заўважыць. Тым не менш, падазраваныя ў здзяйсненні злачынства ўжо затрыманыя: імі апынуліся двое непрацуючых несудзімых магілёўцаў 1989 і 1977 г.н. Па факце крадзяжу распачата крымінальная справа (артыкул 205-3 КК РБ «Крадзеж», да 5 гадоў пазбаўлення волі).

У ходзе гутаркі з падазраванымі праваахоўныя органы высветлілі, што зламысьнікі працавалі «пад заказ»: выкрадзеных жывёл яны адагналі на суседнюю ферму, там пагрузілі на фуру і адправілі ў Смаленск. Кім быў заказчык, і колькі ён ім абяцаў за цёлак, падазраваныя не гавораць.

***Алесь СУВОРАЎ.***

# Зарплата ў верасні



Намінальная налічаная сярэднямесячная заработная плата работнікаў Рэспублікі Беларусь у студзені - верасні 2012 года склала 3520,4 тыс. рублёў, у тым ліку ў верасні – 4096,7 тыс., і павялічылася ў параўнанні са жніўнем 2012-га на 0,3%, або на 11,8 тыс. рублёў. Такія дадзеныя ўтрымліваюцца ў афіцыйным прэс-рэлізе Белстата.

Аднак калі пералічыць заробак у доларавым эквіваленце па афіцыйнаму сярэдняму курсе за верасень і жнівень, то атрымаецца, што сярэдняя зарплата знізілася на $ 4 – з $ 490 да $ 486.

*«Рэальная заработная плата (заработная плата, разлічаная з улікам росту спажывецкіх цэн на тавары і паслугі) у студзені - верасні 2012 г. у параўнанні з студзенем - верасні 2011 г. павялічылася на 15,4%, у верасні 2012 г. у параўнанні з жніўнем 2012 г. - паменшылася на 1%»*, - гаворыцца ў паведамленні статыстычнага ведамства.

У верасні 2012 года ў прамысловасці сярэдняя заработная плата склала 4617,1 тыс. рублёў ($ 548), на транспарце і ў сувязі – 4517,4 тыс. ($ 536), у будаўніцтве – 5046,6 тыс. ($ 599), у адукацыі – 2899,9 тыс. ($ 344), у тым ліку настаўнікаў – 3369,6 тыс. ($ 400), прафесарска-выкладчыцкага складу – 5101,8 тыс. ($ 605), у сельскай гаспадарцы, паляванні і лясной гаспадарцы – 3171,1 тыс. рублёў ($ 376).

Заработная плата работнікаў аховы здароўя і прадастаўлення сацыяльных паслуг у верасні 2012 года склалася ў памеры 3214,6 тыс. рублёў ($ 381), у тым ліку ў галіне аховы здароўя – 3302,5 тыс. рублёў ($ 392). Сярэдняя заработная плата ўрачоў склала 5275,6 тыс. рублёў ($ 626), сярэдняга медыцынскага персаналу – 3203,7 тыс. рублёў ($ 380).

*Падрыхтаваў*
**Міхась БАРАЗНА.**

# Рок - за артылерыю




Астраціўшы надзею знайсці спонсара, гатовага даць некалькі тысяч еўра на куплю вельмі цікавай кніжкі «Вялікае мастацтва артылерыі», напісанай беларускім шляхціцам Казімірам Семяновічам ў XVII стагоддзі, Музей гісторыі Магілёва вырашыў пайсці іншым шляхам. Спачатку музейшчыкі звярнуліся да ўсіх неабыякавых з просьбай прыняць удзел у суботніку, дзе частка недастаючай сумы можна было б зарабіць за праполкой ялінак. Але арганізаваны музеем суботнік патрапіў на выходныя, калі ў Мсціславе праходзіў фестываль сярэднявечнай культуры, куды замест праполкі ялінак і з'ехалі ўсё «свядомыя» грамадзяне. Цяпер адміністрацыя Музея гісторыі Магілёва шукае падтрымкі не ў тых, хто гатовы бясплатна працаваць, а ў тых, хто любіць і ўмее адпачываць. 14 кастрычніка ў начным клубе «Куба» прайшоў дабрачынны канцэрт, грошы ад якога пайшлі на выкуп кнігі. Выступілі гурты Oblik-O-Morale, Rel1kt, Полина Республика, Изнутри, NIMATA, OSIMIRA, Confuzzled, Green Pills и NEVMA. Як сказаў адзін з удзельнікаў канцэрта, *"дык трэба ж неяк "Вялікае мастацтва артылерыі" вяртаць на гістарычную радзіму"*.



*Вітальная слова гісторыка Зміцера Яцкевіча*



Нагадаем, што заяўлены кошт падручніка па артылерыі - 15 000 еўра, а музей паспеў сабраць толькі 5 000. Дзякуючы канцэрту музейшчыкі зарабілі яшчэ пэўную колькасць грошай.

**Сяргей ПІСЬМЕННЫ.**

Фотаздымкі з сайта 222.by



# Весткі з замежжа

## У Шатландыі пройдзе рэферэндум аб незалежнасці




Рэферэндум аб самавызначэнні Шатландыі адбудзецца ў 2014 годзе. Пра гэта паведаміў міністр брытанскага ўрада, адказны за справы Шатландыі Дэвід Мандэл.

*"Вэстмінстэр мае намер дэлегаваць парламенту Шатландыі паўнамоцтвы арганізаваць рэферэндум па пытанні аб тым, ці застанецца Шатландыя ў складзе Вялікабрытаніі. Мы лічым, што гэты рэферэндум можа адбыцца восенню 2014 года"*, – заявіў Д.Мандэл.

Паводле дадзеных апытанняў грамадскай думкі, за незалежнасць Шатландыі выступаюць ад 30 да 40 адсоткаў шатландцаў.

## Жыхары падмаскоўнага Дамадзедава патрабуюць незалежнасці



Жыхары гарадской акругі Маскоўскай вобласці Дамадзедава прынялі рашэнне аб стварэнні Рускай Дэмакратычнай Рэспублікі ў яго межах. Яны звярнуліся да Еўрапейскага Саюзу аб прызнанні за імі права на самавызначэнне. У звароце гаворыцца пра тое, што расейскія ўлады грубейшым чынам парушылі прынцыпы дэмакратычнага грамадства, праігнараваўшы вынікі рэферэндуму 2007 года, калі амаль 100% жыхароў Дамадзедава прагаласавалі супраць будаўніцтва платнай дарогі ў межах акругі. Аднак у 2009 годзе ўлады прыступілі да будаўніцтва, і пад пагрозай зносу апынуўся пасёлак Мацвееўка. Як распавялі сябры ініцыятыўнай групы, жыхары лічаць, што Руская Дэмакратычная Рэспубліка павінна быць інтэгравана ў Еўрапейскі Саюз і прызнана іншымі дзяржавамі, знаходзячыся пры гэтым у складзе РФ пад асаблівым статусам. Па словах адваката Яўгена Архіпава, ініцыятыва стварэння Рускай Дэмакратычнай Рэспублікі прадыктавана тым, што жыхары Дамадзедава апынуліся ў адно імгненне гасцямі на ўласнай зямлі, дзе крымінал, алігархі і карумпаваная ўлада ўсталявалі свае злачынныя парадкі, абкладваючы мясцовых жыхароў данінай за праезд, карыстанне вадой, беручы плату за збор грыбоў і ягад у лесе, падвяргаючы рэйдарскім захопам любую ўласнасць у Дамадзедава. Сярод патрабаванняў жыхароў заяўлены перанос платнай дарогі за межы акругі, спыненне рэйдэрскага захопу зямель у акрузе, вяртанне ва ўласнасць народа лясоў і рэк, азёр, а таксама захаванне прыярытэтнага права мясцовых жыхароў на кіраванне сваёй тэрыторыяй.

*Падрыхтаваў Антон ДУБАЛОМАЎ.*

# Палыкавіцкая крыніца

*( Працяг. Пачатак у № 16 )*

Рабіліся масавыя хросныя хады і набажэнствы. Гэтыя дні называліся Палыкавіцкімі пятніцамі. Сюды прыязджалі тысячы людзей з Магілёва, бліжэйшых гарадоў і вёсак. Лічылася, што менавіта ў гэты час вада валодала моцнымі гаючымі ўласцівасцямі.

У 1866 г. у Палыкавіцкую царкву-капліцу Святой Параскевы была перанесена часціца мошчаў Святой вялікапакутніцы Параскевы, прывезеная з Афона. ( Параскева – дачка багатых бацькоў, якая ў маладосці паверыла ў Хрыста і вяла аскетычны лад жыцця. Па абвінавачванні ў хрысціянстве была прыведзеная на суд да кіраўніка вобласці, які прапаноўваў ажаніцца на ёй, калі яна адмовіцца ад Хрыста. Параскева адмовілася, і ёй адсеклі галаву. Царквой прылічана да ліку святых вялікамучанікаў ).

Пілігрымка ў Палыкавічы стала масавай. У хросных хадах удзельнічала па 10 тысяч чалавек. Лічылася вельмі карысным сюды прыходзіць жанчынам. Негалосна ўсталявалася правіла, што ў акрузе 100 км ад вёскі кожная жанчына ці дзяўчына хоць раз у жыцці ў Палыкавіцкую пятніцу павінна схадзіць да крыніцы, пабываць на службе ў храме. Святая лічыцца заступніцай сямейнага ачага, шлюбу, памочніцай жанчын. Падчас Палыкавіцкіх пятніц прадавалі васковыя і гліняныя фігуркі, знакамітыя абаранкі са Шклова. Прычым, жабракам іх часта раздавалі бясплатна.

Вялі сюды і хворых хатніх жывёл. Для іх вадапой ладзілі ніжэй па плыні крыніцы.

Лічылася, што карысна піць з крыніцы і купацца ў ёй тым, у каго язвавая хвароба, крываценне, ангіна, хваробы зубоў.

**Юлія БРУК.**

*( П р а ц я г  б у д з е )*

"СПРАВА"
Інфармацыйна-грамадскі бюлетэнь Магілёўскага раёна Магілёўскай вобласці, Рэспубліка Беларусь.
Выданне здзяйсняецца ў адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь "Аб сродках масавай інфармацыі".

Заснавальнік і адказны за выпуск - Мікалай Адамавіч ЯЦКОЎ
Адрас: 213107 Магілёўскі раён, в.Брылі, вул. Юбілейная 6 - 7
тэл. маб. +375293732886
e-mail: bryli@mail.ru

Матэрыялы друкуюцца на мове аўтараў.
Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў.
Звярстана і надрукавана на ўласным абсталяванні.
Падрыхтавана да друку 15.10.2012. 21.00.
Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.

«СПРАВА» заўсёды на www. kamunikat. org/